www.nv-online.info

**№ 32 (4079)**

26 красавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб* КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## «Чарнобыльскі Шлях-2016»: дзе і калі…

*Сёння ў Мінску адбудзецца дэманстрацыя і мітынг з нагоды 30-годдзя катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.*

Мінгарвыканкам дазволіў збор удзельнікаў акцыі 26 красавіка з 18.00 да 18.30 на пляцоўцы ля кінатэатра "Кастрычнік".

З 18.30 да 20.00 – дэманстрацыя ад кінатэатра да памятнага знака "Ахвярам Чарнобыля", што побач са скрыжаваннем вуліц Арлоўскай і Карастаянавай, дзе з 20.00 да 21.00 адбудзецца мітынг і ўскладанне кветак.

# 30 гадоў Беларусь стогне пад Чарнобылем. Уратуемся?




У час аварыі над разбураным рэактарам утварыўся слуп газаў і аэразоляў. Распаўсюджванне радыеактыўных рэчываў, па назіраннях 26 красавіка 1986 года, адбылося наступным чынам: прыблізна 20% апынулася на вышыні 1800 метраў, амаль столькі ж – у прыземным слоі (600–1200 м); максімум радыеактыўных рэчываў (60%) – на вышыні 1200–1300 метраў.

Інфармацыя аб радыяцыйным становішчы ў першыя гадзіны пасля выбуху адсутнічала з-за рэдкай сеткі назіранняў і недастатковага аснашчэння прыладамі. Наземныя вымярэнні на асобных метэастанцыях праведзены з затрымкай (у 9 гадзін 26 красавіка) у адпаведнасці з рэжымам вымярэнняў. Гама-здымка з верталётаў пачалася 27 красавіка і дала магчымасць вызначыць, што ў радыусе 10 кіламетраў ад аварыйнага энергаблока магутнасць экспазіцыйнай дозы (МЭД) на вышыні 200 метраў дасягала 1000 мР/гадз, а 28 красавіка – 500 мР/гадз. У Белгідрамет звесткі пра магутнасць экспазіцыйнай дозы пачалі паступаць на зыходзе 27 красавіка, надзейныя дадзеныя – 28 красавіка.

Праз трое сутак вышыня радыеактыўнага струменя дасягала 200–400 метраў. Радыеактыўныя рэчывы ў газападобнай, лятучай і аэразольнай формах пераносіліся паветранымі патокамі на адпаведнай вышыні. Ветравымі патокамі на вышыні 1200 метраў радыеактыўнасць пачатковага выкіду (лёгкія фракцыі) пераносілася на поўнач і паўночны захад і праз 36 гадзін (у другой палове дня 27 красавіка) дасягнула Швецыі, дзе была зарэгістравана і ідэнтыфікавана як радыяцыйная аварыя на энергетычным рэактары з гарэннем графіту. Заходні струмень паветраных мас, абагачаных радыенуклідамі, дасягнуў Польшчы, 29–30 красавіка высокі радыяцыйны фон зарэгістраваны ў Польшчы, Германіі, Аўстрыі, Румыніі, 30 красавіка – у Швейцарыі і Паўночнай Італіі, 1–2 мая – у Францыі, Бельгіі, Нідэрландах, Вялікабрытаніі, Паўночнай Грэцыі. 3 мая паўднёвыя патокі паветра павялічылі радыяцыйны фон у Ізраілі, Кувейце, Турцыі. Закінутыя на вялікую вышыню газападобныя і лятучыя рэчывы глабальна распаўсюдзіліся ў Паўночным паўшар'і. 2 мая яны зарэгістраваны ў Японіі, 4-га – у Кітаі, 5-га – у Індыі, 5 і 6 мая – у ЗША і Канадзе.

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## «…І разлічваць нам не было на каго»

Учора намесніка Генеральнага сакратара ААН, адміністратара праграмы развіцця ААН (ПРААН) Хелен Кларк прыняў Аляксандр Лукашэнка.

Ён выказаў падзяку Хелен Кларк і памочніку Генеральнага сакратара, дырэктару Рэгіянальнага бюро па краінах Еўропы і СНД Джыхан Султанаглу за іх уклад у справу пераадолення наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

"Ёсць шмат у свеце добрых людзей. Такіх, як вы, як ААН, якія дапамагаюць нам у пераадоленні гэтай катастрофы. Але, згадзіцеся, гэта немагчыма сувымераць з тым, што зрабіла Беларусь, – адзначыў А.Лукашэнка. – Складанасць уся ў тым, што чарнобыльская катастрофа лягла на нашы плечы пасля распаду СССР. Мы не будавалі гэту станцыю, не эксплуатавалі, а бяда ў асноўным прыпала на нашу тэрыторыю. І разлічваць нам не было на каго".

Аляксандр Лукашэнка таксама ўручыў Хелен Кларк і Джыхан Султанаглу ордэны Францыска Скарыны за значны асабісты ўклад у развіццё супрацоўніцтва паміж Беларуссю і ААН па правядзенні комплекснай рэабілітацыі і забеспячэнні ўстойлівага развіцця раёнаў, якія пацярпелі ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

ДЫПКУР'ЕР

Уладзімір МАКЕЙ:

## Беларусь і ЗША гатовы да поўнай нармалізацыі адносін

Пра гэта заявіў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей падчас цырымоніі адкрыцця памятнай дошкі ў гонар амерыканскай супрацоўніцы ААН Рут Уолер у мінскай сярэдняй школе №130.

Удзел у цырымоніі брала намеснік генеральнага сакратара ААН **Хелен Кларк**, якая прыбыла ў Мінск 24 красавіка, а таксама Часовы Паверany ў Справах ЗША ў Беларусі **Скот Роланд.**

*«Мы павінны глядзець адзін на аднаго не праз прыцэлы зброі, а павінны размаўляць, мець адкрыты дыялог*, – цытуе БелаПАН Макея. – *Так, дыялог можа быць цяжкім, але мы павінны шукаць кампрамісныя рашэнні тых складаных пытанняў, якія здаюцца непераадольнымі»*.

На яго думку, Беларусь і ЗША цяпер якраз знаходзяцца на этапе *«паступальнага пашырэння пазітыўнай атмасферы ў адносінах»*. *«Я перакананы, што гэта працягнецца. У абодвух бакоў ёсць гатоўнасць да поўнай нармалізацыі нашых адносін. Мы маленькая краіна, і мы разумеем, якую ролю іграюць ЗША ў свеце»*.

Скот Роланд, адказваючы на пытанне аб магчымасці вяртання ў Мінск пасла ЗША, адзначыў: *«Гэта, вядома, было б вельмі добрым крокам наперад. Я спадзяюся, што сёлета гэта можа быць тэмай для абмеркаванняў з Міністэрствам замежных спраў Беларусі»*.

*«Я магу вам прадаць маленькі сакрэт: на адной з апошніх сустрэч з нашымі амерыканскімі партнёрамі наш прэзідэнт сказаў спадару Роланду: «Дык давайце мы вас прызначым паслом!»*, – адказаў Макей. – *На жаль, гэта залежыць не ад нас, але мы працуем над тым, каб у бліжэйшай будучыні мы мелі магчымасць для паўнавартаснага, поўнафарматнага дыялогу на ўзроўні пасольстваў»*.

### З архіва

У сакавіку 2008 года колькасць супрацоўнікаў Пасольства ЗША ў Мінску была скарочана па патрабаванні беларускага боку з 35 чалавек да пяці. Гэта адбылося пасля ўвядзення Злучанымі Штатамі санкцый у дачыненні да дзяржканцэрна «Белнафтахім» у сувязі з парушэннямі правоў чалавека. Крыху пазней пасол Беларусі ў ЗША **Міхаіл Хвастоў** быў адкліканы з Вашынгтона для кансультацый, а Мінск па патрабаванні беларускага боку пакінула пасол **Карэн Сцюарт.**

У 2014 годзе беларускі бок дазволіў павялічыць штат Пасольства ЗША з пяці да шасці чалавек, пасля чаго амерыканскае дыппрадстаўніцтва пашырыла спіс візавых паслуг для грамадзян Беларусі.

У лютым гэтага года Скот Роланд выказаў надзею на тое, што пытанне аб пашырэнні штату амерыканскага пасольства ў Мінску будзе вырашана на працягу года. Ён падкрэсліў, што пытанне аб аднаўленні паўнавартаснай працы Пасольства ЗША ў Беларусі «абмяркоўваецца і ў Вашынгтоне, і ў Мінску».

ШТО ХВАЛЮЕ...

## Ці ўключаць ацяпленне ў кватэрах?

Беларусы замярзаюць. На вуліцы +6…+8, у кватэрах, офісах, на прадпрыемствах не нашмат цяплей. Напрыклад, учора тэрмометр у кватэрах дома па вуліцы Чорнага, 8а Мінска застыў на адзнацы +12…+13 і не рухаўся. У некаторых дамах на Партызанскім праспекце было не нашмат цяплей – +14. Прагноз надвор'я на бліжэйшыя дні не радуе, халаднаватае і дажджлівае надвор'е захаваецца. Няўжо гэта не падстава для таго, каб хоць на некалькі дзён уключыць ацяпленне? З гэтым пытаннем мы звярнуліся ў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

– *Мы не супраць*, – адказалі ў ведамстве. – *Самі мерзнем. Але рашэнне аб падключэнні жылфонду прымае мясцовая ўлада. І, напрыклад, у Віцебскай і Гродзенскай абласцях прынята рашэнне ўключыць ацяпленне ўсім спажыўцам, г.зн. у жылых дамах, школах, дзіцячых садках і медустановах.*

Як удакладнілі ў міністэрстве, «*цяпер ацяпленне ўключана ў рэжыме працэплівання, пры якім падтрымліваецца мінімальная тэмпература ў батарэях*».

Акрамя **Віцебскай і Гродзенскай абласцей** ацяпленне ў такім рэжыме ўключана на 17.00 учарашняга дня:

– у **Брэсцкай вобласці** – у Брэсце і ў раённых цэнтрах, акрамя Пінскага і Кобрынскага, ва ўсіх дашкольных установах і медыцынскіх стацыянарах, жылфонд не ўключаны;

– у **Гомелі і вобласці** адключаны ўсе спажыўцы, нават дзіцячыя садкі і бальніцы;

– у **Мінскай вобласці** толькі ў Мінскім раёне ацапляюцца дашкольныя ўстановы і медстацыянары, а таксама ў Валожынскім раёне да цяпла падключаны дашкольныя ўстановы, медстацыянары і жылфонд;

– у **Магілёўскай вобласці** батарэі цёплыя толькі ў дашкольных установах і медыцынскіх стацыянарах у Магілёве і Магілёўскім раёне, Бабруйску і Бабруйскім раёне, а таксама ў Слаўгарадзе, Бялынічах, Хоцімску, Быхаве, Крычаве, Чавусах, Чэрыкаве, Шклове, Клімавічах. Краснаполлі, Мсціслаўі, Асіповічах, Глуску.

*«У **Мінску** рашэння аб уключэнні ацяплення ў жылфондзе не было, а дзіцячыя дашкольныя ўстановы і медыцынскія стацыянары знаходзяцца ў рэжыме працэплівання ўвесь час, рашэння аб іх адключэнні не было»*, – растлумачылі ў Міністэрстве ЖКГ.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

РЭЦЭПТ

## Васілій Жарко паабяцаў стрымліваць кошты на лекі

«Народная Воля» не раз параўноўвала кошты на лекі ў аптэках Беларусі і суседніх з намі краін. І амаль кожны раз мы канстатавалі: калі купляць імпартныя прэпараты ў аптэках Украіны, Расіі і нават Польшчы, то можна сэканоміць немалую суму.

І вось нядаўна на з'ездзе работнікаў фармпрамысловасці Васілій Жарко паведаміў, што ў Міністэрстве аховы здароўя знайшлі новы рэцэпт, які дазволіць «*эфектыўна стрымліваць рост рознічных цэн на лекі і забяспечыць іх даступнасць насельніцтву*». Ужо падрыхтаваны адпаведныя змены ў прэзідэнцкі ўказ ад 2005 года «Аб фарміраванні цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскую тэхніку». «*Сутнасць змяненняў заключаецца ў прывязцы існуючай шкалы паніжальных аптовых і рознічных надбавак да базавай велічыні замест долара*», – растлумачыў Васілій Жарко.

Каб было зразумела, нагадаю. Паводле дадзенага ўказа ад 2005 года, на лекі, якія з завода адпускаюцца па кошце да 5 долараў, дазваляецца аптовая надбаўка ў межах 11%, а гандлёвая – не больш за 30%. Калі ж гаворка ідзе пра дарагія прэпараты, адпускныя кошты якіх ад 15 да 30 долараў уключна, то надбаўкі на іх устаноўлены ў межах не больш за 8% і 17% адпаведна.

Што можа змяніцца, калі кошты прэпаратаў для прызначэння надбаўкі будуць вылічваць у базавай велічыні? Няўжо імпартныя лекі не будуць даражэць тымі шалёнымі тэмпамі, якія мы назіраем цягам апошніх гадоў?

– Гэта спроба падмануць законы гравітацыі: калі даражэе долар, давайце прывяжам разлікі да нацыянальнай валюты, – кажа прадстаўнік адной з кампаній, якія займаюцца пастаўкамі лекаў у Беларусь. – Але за імпартныя прэпараты пастаўшчыкі разлічваюцца з вытворцам валютай! І што атрымаецца? Напрыклад, дыстрыб'ютар увозіць у Беларусь прэпарат коштам 10 долараў, гэта значыць 1 базавая велічыня. Але долар расце ў адносінах да рубля, а базавая велічыня не мяняецца, і атрымліваецца, што прэпарат у доларах "таннее" і надбаўку **ўжываюць да патаннелых прэпаратаў.** Зразумела, што пастаўшчык панясе страты. Хто іх яму пакрые? Калі не будзе эканомікі ў гэтых працэсах, то не будзе і імпартных лекаў на рынку, у лепшым выпадку іх стане менш. Прывозіць будуць тое, што выгадна прадаваць, што найбольш запатрабавана ў насельніцтва.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ИЗ БЛОКНОТА ОЧЕВИДЦА

## Командировка в Хойники









**Никто из чиновников не хлебнул столько чернобыльского горя, сколько выпало на долю Александра Адамовича Граховского, председателя Гомельского облисполкома. Умер вскоре после катастрофы.**

30 лет назад, когда случилась Чернобыльская авария, я работал в АПН и, естественно, должен был сделать репортаж об этом происшествии. Накануне вечером, 25 апреля, встречался с приятелем, известным поэтом. Ему нужна была фотография для сборника стихов, который выходил в Москве. Мы разговаривали, и я фотографировал его по системе Картье Брессона – интересная беседа и фото между прочим. Засиделись за полночь. Ночь была теплой, и мы пошли пешком. На улице было много гуляющих.

Утром на улице стояли лужи, окаймленные желтыми пенными каемками. Спустя много лет я узнал, что это был искусственно вызванный дождь из туч, которые шли от Чернобыля в сторону Москвы. Тогда же утром позвонил мой друг и сказал, что на подходе к дому его застал дождь. Помня поверье «если капли первого весеннего дождя втереть в волосы, они будут гуще расти», он так и сделал. Утром почувствовал головокружение. Потом узнал о взрыве в Чернобыле.

1 мая 1986 года в Минске прошла демонстрация трудящихся. Знакомый физик из Института ядерных исследований Академии наук БССР в Соснах сказал, что в этот день радиация была в 200 раз выше нормы. Он говорил: «Я шел по городу и ужасался, когда видел, как минчане едят мороженое. Хотелось крикнуть: «Не облизывайте губы – радиация!..»

6 мая я принял решение ехать в Чернобыльскую зону, позвонил в Гомель первому секретарю обкома партии Алексею Степановичу Камаю. Он уточнил, каким рейсом я лечу.

У трапа самолета стояла обкомовская черная «Волга», и мы понеслись по пустынному городу. Я и раньше приезжал в Гомель, но такой чести удостоился впервые.

В обкоме партии не было людей.

Камай был сосредоточен и сумрачен. В нагрудном кармане Алексея Степановича я увидел похожий на авторучку прибор.

– Индивидуальный дозиметр, – пояснил Камай.

Специалистами из Института глобального климата и экологии Росгидромета была определена 30-километровая зона отселения вокруг Чернобыльской АЭС. Это было сделано геометрически: на карте циркулем отметили окружность с радиусом 30 километров. Потом мне рассказывали, что граница проходила порой по главным улицам некоторых деревень, разделяя их на «чистую» и «грязную» зоны.

Мы поехали в Хойники, там находился Республиканский штаб по ликвидации последствий аварии. Нас ждал вертолет. Полетели над деревнями с цветущими садами, над пустынными поселками. Было похоже на декорации к съемкам фильма. Еще немного – сюда запустят массовку, и жизнь закипит. Мы пролетали над добротными домами, клубами, на крышах которых реяли красные флаги. На одном из перекрестков дорог по круговой развязке ехали поливочные машины, распушив белые водяные усы. Дезактивация.

Светило яркое солнце. Теплый ветер овевал лицо, и я почувствовал, как мои глаза застилает пелена. Терялась резкость. Я протер глаза платком – не помогло.

– Радиация, – пояснил летчик.

На горизонте показалась Чернобыльская атомная электростанция.

– Туда нельзя, запрет, – летчик показал в сторону станции, и вертолет лег на обратный курс.

Когда мы подлетали к месту посадки, земля крутанулась, и возникло чувство тошноты. Невесомость? Фотоаппарат отделился от колен и поплыл. Несколько мгновений неясности… Вертолет опять взмыл в небо.

Когда вертолет приземлился, нас встретили, раскрыв объятия. Среди встречающих был коллега – Слава Ходосовский. Из вертолета вышли бледные летчики. Потом Слава рассказал мне, что вертолет падал и крутился, а метров за десять до земли взмыл вверх.

Теперь испугался я...

Публикуемые фото сделаны мною в Хойниках 7 мая 1986 года.

**Юрий ИВАНОВ.**

СМУТАК

## Памёр Клаус Зіберт

*Былы старшы трэнер жаночай зборнай Беларусі па біятлоне Клаус Зіберт памёр на 61-м годзе жыцця.*

Пра гэта паведамілі ў Беларускай федэрацыі біятлона. Сярод найбольш вядомых выхаванцаў Клауса Зіберта – трохразовая алімпійская чэмпіёнка, двухразовая чэмпіёнка свету Дар'я Домрачава, бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў 2014 года, шматразовы прызёр Кубка свету па біятлоне Надзея Скардзіна.

